Цана асобнага нумару 17 грошаў.

# СЫН БЕЛАРУСА

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп

№ 16. Вільня, Пятніца, 18-га ліпня 1924 г. Год I.

## Перамога нацыяналізму.

Калі—пасьля забойства сфанатызаваным эндэкам першага прэзыдэнта Польскае Рэспублікі, Нарутовіча,— адбываліся выбары новага прэзыдэнта, перад паслямі „нацыянальных меншасьцяў“ узьнялося пытаньне: як ім паступіць? За кандыдатаў права-нацыяналістычных партыяў, ведама, ніхто галасаваць ня зьбіраўся. Але і асоба кандыдата польскае дэмакратыі (пэпээсаў і вызваленцаў) сама па сабе не магла быць прызнана заслугуючай даверыя „меншасьцяў“: усе добра памяталі пана Войцеховскага на яго нядаўным міністэрскім становішчы.... Аднак, паслы „меншасьцяў“, ад галасоў каторых залежаў вынік прэзыдэнцкіх выбараў, усё-ж такі пастанавілі галасаваць за кандыдата „лявіцы“, зазначаючы, што сваім галасаваньнем яны *выказываюць даверые* ня пану Войцеховскаму, а — *польскай дэмакратыі*.

Далейшыя выпадкі паказалі, што *адносна да асобы* п. Войцеховскага „меншасьці“ *не памыліліся*: пан Прэзыдэнт, выбраны іх галасамі—супраць галасоў правіцы, стануў зусім выразна на становішчы іменна апошняе, абвяшчаючы, што адзіным гаспадаром у Польшчы ён лічыць—польскі народ! Гэтым п. Войцеховскі разарваў усялякую ідэйную сувязь з польскай дэмакратыяй, якая ў пытаньні аб нацыянальных адносінах у Польшчы дзяржалася таго пагляду, што ў Польскай Рэспубліцы ня можа быць гутаркі аб панаваньні польскага народу над другімі, а, наадварот, павінна быць наладжана супрацоўніцтва ўсіх нацыянальнасьцяў на роўных правох.

Аднак, як хутка выявілася на дзеле, *„меншасьці“ вельмі памыліліся іменна адносна да польскае дэмакратыі*.

Час усё ішоў далей сваім чародам. Уціск „інародцаў“ усё крапчэў. Улада апынулася ў руках правіцы. Але вельмі хутка выявілася, што эндэцкі урад—па-за уціскаsuccessорном „меншасьцяў“—ні да чога больш ня здольны, і „правіца“, зруйнаваўшы фінансова край, давёўшы да нэндзы яго працоўныя масы, прымушана была „здаць свае пазіцыі“.

Згодна з сусьветна прынятым парляманцкім звычаем, п. Прэзыдэнт *мусіў* запрапанаваць утварэньне габінэту тэй партыі ў Сойме, якая скінула ўрад Вітоса,—значыць, „лявіцы“. Выбар яго затрымаўся на лідэры „Вызваленьня“—п. Тугуце.

Настаў мамэнт, калі *польская дэмакратыя ўрэшце магла зьдзейсьніць на дзеле свае „высокія прынцыпы“*, якія здабылі для яе даверые „меншасьцяў“. Палажэньне ў Сойме было акурат такое, як у часе выбараў прэзыдэнта“: „лявіца“ разам з „нацыянальнымі меншасьцямі“ мела абсалютную большасьць у Сойме і магла сваімі галасамі забясьпечыць дэмакратычнаму ўраду поўнае падтрыманьне. Але ў гэты мамэнт зрабілася нешта неспадзяванае: лідэр „лявіцы“, п. Тугут, заявіў, што ён ня можа апірацца на такой соймавай большасьці, у якую будуць уваходзіць „меншасьці“,—што, значыць, у Польшчы ўлада павінна знахадзіцца выключна ў руках адных толькі „прыражоных гаспадароў“—палякоў! І, не знайшоўшы падтрыманьня ні ў аднае з партыяў „правіцы“, не здалеўшы гэтак стварыць „чыста польскае“ большасьці, п. Тугут зрокся тварэньня міністэрства.

Гэта ўжо было *яўнае адрачэньне польскае дэмакратыі ад прынцыпу супрацоўніцтва ўсіх нацыянальнасьцяў на аснове поўнае роўнапраўнасьці*, цаной якога былі ў сваім часе куплены галасы „меншасьцяў“ для „лявіцовага“ кандыдата ў прэзыдэнты. Гэта, як зусім правільна адзначае лейб-орган эндэкаў „Gazeta Warzs.“, была *першая перамога нацыяналістычнае ідэалёгіі*, якую правадзіла датуль адна толькі „правіца“.

Такім парадкам адпала тая галоўная перашкода, якая недавала польскім партыям у Сойме весьці супольна дзяржаўную работу і выключала магчымасьць кампрамісаў. І, запраўды, мы бачым пачатак *супрацоўніцтва* такіх, здавалася, *непрымірымых ворагаў*, як лідэры „правіцы“ і „лявіцы“—п. п. Станіслаў Грабскі і... Тугут!

Ведаў п. Уладыслаў Грабскі — сучасны прэм‘ер, што рабіў, запрашаючы ў „кансьпірацыйную“ камісію да спраў „нацыянальных меншасьцяў“ свайго брата-эндэка і галаву „дэмакратычнае“ апазіцыі! Бо-ж там, у цішы сукромнага міністэрскага габінэту, *аканчальна „сьпеліся“ прадстаўнікі варожых сабе данядаўна партыяў і... падзялілі між сабой міністэрскія партфэлі*! Як наказуюць польскія часопісі, за правядзеньне законаў аб ужываньні (ці, справядлівей, проці ўжываньня!) беларускае і украінскае мовы пан Тугут мае атрымаць у сучасным урадзе партфэль міністра заграгічных спраў, а пан Станіслаў Грабскі—міністэрства асьветы. І пад той час, як эндэк Грабскі будзе весьці ў школах барацьбу з „інародцамі“, карыстаючыся ўсей паўнатой улады,—ягоны сучасны аднадумец, пан Тугут, карыстаючыся сваей старой „дэмакратычнай“ фірмай, якую ганебна прадаў, будзе баламуціць заграгічныя дэмакратыі і „абеліваць“ рабсту абодвух братоў Грабскіх...

Як бачым, польскі зьвярыны нацыяналізм можа сьмела сьвяткаваць сваю бліскучую перамогу. Чаго спадзявацца ад яе нам, беларусам,—ясна хіба кожнаму!

Ясна такжа і тое, *якая цана ўсяму так званаму „польскаму дэмакратызму“*....

## Дэклярацыя вызваленцаў-беларусаў.

Пры выхадзе паслоў-беларусаў з польскае партыі „Вызваленьне“ з прычыны падтрыманьня гэтай партыяй процібеларускіх законаў аб мовах пасол Станіслаў Бальлін злажыў гэткую дэклярацыю:

„Ад імя свайго і тых таварышоў-беларусаў, якія са мною салідарны, заяўляю:

„Крэпка веручы ў шчырасьць праграмы, а такжа ў чыстасьць і безкампрамісоасьць тактыкі P. S. L. „Wyzwolenie“, некаторая значная група беларусаў з культурай пераважна польскай сьвядома пайшла пад штандар P. S. L. „Wyzwolenie“ дзеля супольнае брацкае клясова-мужыцкае барацьбы за зямлю, за ўладу і асьвету, за зьдзейсьненьне поўні грамадзянскіх правоў для ўсіх народаў Польшчы, бачучых дагэтуль адно толькі уціск.

„Гэтае брацтва аружжа польскага і беларускага працоўных народаў, нічым ня зьвязанае і нікім не навязанае, а выплываўшае з супольнасьці ўмілаваньня найвышэйшых культурных і ідэйных цэннасьцяў,—знайшло сваё выражэньне такжа і ў Сойме ў пастаці гэтае жмені паслоў беларускае нацыянальнасьці, каторыя ў імя супольных ідэалаў радыкальнае сацыяльнае перабудовы Польшчы станулі пад штандарам „Wyzwolenia“ дзеля супольнага змаганьня, як з разбэсьціўшымся, пануючым і уціскаючым польскім шавінізмам, так і з уцісканым беларускім шавінізмам. Першы крок супольнае барацьбы, у вагні якое мы ня раз натыкаліся на самую рознародную правакацыю з розных старон, з трывогай глядзеўшых на гэтае брацтва працоўных у Польшчы, ня гледзячы на чысьленыя сутычкі і тактычныя розьніцы, аднакжа йшчэ мацней нас аб‘ядноў і загартаваў да барацьбы. Толькі ў другім годзе соймавае працы, калі перад правадырамі клюбу, які ў тым часе павялічыўся на чверць сваей пачатнай лічбы ўваходам элемэнтаў, як па сваей праграме, так і тактыцы чужых, вырасьлі пэрспэктывы **лёгкіх здабычаў—перадусім асабістых**, дый то коштам праграмна-тактычных кампрамісаў на карысьць правіцы,—тады варункі нашага супрацоўніцтва радыкальна пераміняліся. Усё тое, што нашай супольнай барацьбе надавала характар супрацоўніцтва,—счэзла! Перасталі карыстацца нават нездаровым — з увагі на вялізарную лічэбную перавагу ў клюбе паслоў-палякоў—правам перагаласовываньня; бадай усьцяж стаўлялі ўвесь клюб перад стаўшымся фактам, калі ўжо адступленьне азначала-бы руіну палітычнае кар‘еры правадыроў клюбу і ўпадак павагі апошняга.

„Ад мэтаду—яснага і чыстага, абапертага на супольне абгавораным і прынятым галасаваньнем тактычным высілку:ісьці да вызначанае ў праграме мэты цераз усе перашкоды, — перайшлі да **мэтаду кампрамісаў і тайных сходак з абшарніцка-капіталістычным прадстаўніцтвам у Сойме** — супраць выразных дырэктываў ад працоўных масаў і заўсёды на шкоду для іх.

„Мэтады кампрамісаў і тайных сходак адзначаюцца тым, што, калі ўжо раз улез у гэтае балота, дык прыходзіцца лезьці што-раз глыбей у яго—ажно да самазапярэчаньня. Шавіністычная правіца, патроху, але няўпынна, у працэсе закуліснага палітычнага торгу, атручывала палітыку „Wyzwolenia“. І мы дайшлі да таго, што наш старшыня Тугутт, які сам кінуў кліч чуць што не да рэвалюцыйнае барацьбы проці інсьпіраванага правіцай падзелу грамадзян гаспадарства на розныя сорты, які не завагаўся ў ахвяру гэтай барацьбе зарызыкаваць нявіннай мучаніцкай крывёй сьветлае памяці Нарутовіча,—цераз год ужо сам, насупраць дырэктывам зьезду 25.000 выбаршчыкаў, **гэты падзел грамадзян пацьвярдзіў**: старшыня Тугутт ня ўзяўся тварыць урад без падтрыманьня правіцы і адкінуў падтрыманьне мужыцкіх славянскіх клюбаў!

„З таго часу ў кожным палітычным кроку „Wyzwolenia“ выяўляецца аблічча заўсёды згубнага на далейшую мэту маккіявэлізму: **гаворыцца адно, а думаецца і робіцца другое**. Мы скідаем Вітоса за церазмернае абкладаньне беднага насяленьня падаткамі і за церазмерны ваенны бюджэт, за запраданьне зямельнае рэформы і зламаньне адбудовы. Садзім на прэм‘ерскі пасад абшарніка Грабскага і даем яму поўную свабоду блізу цалком пераклaсьці санацыйныя цяжары на плечы працоўных, зацьвярджаем яму чуць не ўдвая вялікшы бюджэт на войска і амаль ні граша на зямельную рэформу і зямляробства, зацьвярджаем блізу поўную ліквідацыю працы над адбудовай. **Пры маўклівым падтрыманьні з нашага боку пан Грабскі робіць тое, дзеля чаго данядаўна арганізоўваліся гучныя фашыстаўскія дружыны.**

„Сяньня мы стаімо перад аблічам законапраектаў, уложаных п. Тугуттам на ўласную руку ў таёмным абасабленьні нават ад уласнага Клюбу і—ў суполцы з п. Ст. Грабскім. Гэтыя законапраекты выяўляюць поўнае адхіленьне „Wyzwolenia“ ад праграмнае дарогі, бо ігнаруюць голас усіх меншасьцяў, як раўнапраўных грамадзян, маючых першы голас пры ладжаньні іх лёсу і жыцьця. Апрача таго **гэтыя ўставы цалком прыймаюць становішча нацыянал-дэмакратыі ў адносінах да меншасьцяў**. У іх выяўляецца **эндэцкі прынцып пануючага народу і адыход ад прынцыпу брацкага сужыцьця і супрацоўніцтва, дагэтуль абвяшчанага лявіцай**. Гісторыя гэтых законапраектаў і абставіны, у якіх яны нарадзіліся, найлепш паказуюць, што больш сумленная часьць лявіцы польскага Сойму стыдаецца таго, што робіць...

„Гэтым новым адрачэньнем ад свайго праграмнага становішча „Wyzwolenie“ вырвала апошні

астравок грунту, на якім было магчыма такое супрацоўніцтва беларусаў у польскім клюбе.

„Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя з глыбокім жалем у сэрцы пакідаюць клюб „Wyzwolenie“ і будуць галасаваць проці законапраектаў, а таксама проці бюджэту.

„Крэпка верым, што ня робім гэтага дзеля ненавісьці ці непрыязьні. Шчырая і гатовая да найвялікшых высілкаў і ахвяр рука беларускага селяніна на мамэнт завісла ў паветры, але хутка сустрэне таксама шчырую руку польскага селяніна“.

Варшава, 9 ліпня 1924 г.

Цікава, што паслы Галавач і Шапель дагэтуль ухіляюцца ад подпісу гэтае дэклярацыі і далей цалуюцца з палякамі — на загубу свайму народу, але мо‘... на карысьць сабе?!

# Вялікі скандал у Сойме.

На паседжаньні Сойму 9-га ліпня здарыўся —ў часе прыйманьня „знамянітых“ языковых законаў—вялізарны скандал, выкліканы, як заўсёды, тым гвалтам, які дазваляе сабе соймавая большасьць над меншасьцю.

Каб выразіць пратэст проці сілком навязываных беларусам і украінцам законапраектаў, лёс якіх ужо быў вырашаны напярод воляй згаварыўшыхся польскіх партыяў, украінец Пашчук пачаў прамову паукраінску. Тры разы перапынены маршалкам, ён урэшце быў пазбаўлены слова, але ня сходзіў з трыбуны. Тады маршалак зрабіў перарыў і паставіў другую справу на разгляд Сойму.

Калі Сойм ізноў вярнуўся да „языковых уставаў“, дык пасьля прамоваў Грюнбаўма і Чапіньскага маршалак заявіў, што яшчэ ёсьць 6 запісаных да слова прамоўцаў, але ёсьць і прапазіцыя спыніць дыскусію. Большасьць Сойму прыймае гэту прапазіцыю.

Гэтак недапушчанымі да голасу аказаліся выключна нацыянальныя меншасьці. Адзін з іх паслоў, жыд Прылуцкі, крыкнуў: Гэта-ж лайдацтва!“

Маршалак Ратай за гэткую цяжкую абразу ўсяго Сойму выключыў Прылуцкага на 3 паседжаньні. Правіца крычыць: „за мала“...

Калі Прылуцкі выходзіў, яго зачапіў эндэк п. Мантэрыс. Пачалася лаянка. Тады падышоўшы збоку другі эндэцкі пасол, Добія, ударыў п. Прылуцкага ў твар і ўцёк.—Сталася гэта каля дзьвярэй, узьняўся вялікі галас, — у той час, калі п. маршалак фарсаваным маршам гнаў толькі дзеля формы трэцяе чытаньне праектаў аб мовах. Пабіты п. Прылуцкі дагнаў п. Добію ўжо ў салі і таксама „даў яму здачы“... Але тут паднялася ўжо такая бойка, што, ня глядзячы на ўсё жаданьне п. маршалка „правясьці“ праекты, прышлося зрабіць перарыў.

Пасьля перарыву маршалак выразіў жаль з прычыны скандалу, выключыў на 3 паседжаньні і п. Добію—і пагнаў яшчэ хутчэй „чытаньне“ праектаў.

Тым часам п. Прылуцкі, спаткаўшы п. Мантэрыса, „заехаў“ і яму па твару. Той з братам у двух накінуліся на Прылуцкага, і пашла ізноў бойка...

Характэрная падробнасьць: у часе гэтых эндэцкіх нападаў адзін з напасьнікаў выбраў з кішані рэвальвэр і прыцэліўся ў п. Прылуцкага. Той крыкнуў яму: „страляй, не баюся!“.

А п. Маршалак усё гнаў праекты...

Прапазіцыю меншасьцяў адкінуць цалком праекты большасьць спаткала зьвярыным рыкам. Тады ўсе беларусы, украінцы, жыды, немцы і расеец пачалі выходзіць з салі з пяяньнем нацыянальных гімнаў...

Асталіся ў салі толькі жыды-ортодоксы (прадстаўнікі буйнай буржуазіі), якім іншыя жыды крычалі: здрайцы!..

Пакуль гэта ўсё йшло, маршалак скончыў „галасаваньне“ праектаў і аб‘явсьціў іх „прынятымі Соймам“.—Усе папраўкі былі адкінуты.

Так адбылося ў „чыста польскім Сойме“ — бяз учасьця меншасьцяў—правядзеньне апрацаваных бяз меншасьцяў „грабска-тугуттаўскіх“ законаў, маючых мэтай „дабро“ гэтых меншасьцяў...

## ІНТЕРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў украінскага клюбу да п. Міністра Ўнутраных Справаў у справе няпраўнае канфіскаты № 24 (97) украінскага тыднёвіка ў Холме „Нашае Життя“.

Холмскае Староства Люблінскага Ваяводства, бачучы ў артыкулах пад загалоўкам: „Ліст да Мітрапаліта“ і „Вялікае веча пратэсту ў Халме“, зьмешчаных у тыдневіку „Нашае Життя“ № 24, праступства з арт. 129 і 142 К. К., налажыла на ўвесь набор „Нашае Життя“ № 24 арышт пастановаю ад 22 чэрвеня 1924 г. № 6214/III.

Сканфіскаваныя артыкулы пры гэтым далучаем:

## ЛІСТ ДА МІТРАПАЛІТА.

Ад прадстаўнікоў украінскага праваслаўнага насяленьня—украінскіх паслоў ды сэнатараў у Польскім Сойме і Сэнаце—да Яго Высоканайасьвячонасьці, Мітрапаліта Дзяніса.

Уладыка!

12-га красавіка г. г. праваслаўныя япіскапы ў Польшчы, на чале якіх Вы стаіцё, увялі ў царкоўнае жыцьцё нашага народу праваслаўнага важную зьмену, г. ё. пастанавілі ўсе непераходныя праваслаўныя сьвяты сьвяткаваць не па старому, традыцыяй народу асьвячонаму, Юліянскаму каляндару, а па каляндару новаму—Грыгарыянскаму.

Ня спытаўшыся ў народу, ня лічучыся з паглядам усяго духавенства, якое стаіць блізка да народу, без аб‘ектыўнае падрыхтоўкі да адпаведнага вырашэньня справы на Саборы, ці прынамсі на зьездах, як належыць вырашаць важныя царкоўныя пытаньні паводле духу саборнасьці ды практыкі праваслаўнае царквы, а па-дыктатарску ўвялі праваслаўныя япіскапы навіну, якая пярэчыць звычаям і вытварыўшамуся праз вякі рэлігійна-бытавому сьветапагляду нашага народу.

Самахоць аднэй рысай пяра Вы, Уладыка, а з Вамі і рэшта залежных ад Вас Япіскапаў накінулі нашаму народу такое, што будзе мець для яго вялізарныя нэгатыўныя вынікі.

У XVI—XVII сталецьцях, у часе першага інтэнсыўнага націску ворагаў на наш народ, таксама было высунута каляндарнае пытаньне, таксама пэўныя дзеячы ў дзяржаве Польскай імкнуліся, хочучы палянізаваць наш народ, накінуць яму новы стыль. Але супольнымі высілкамі продкаў нашых, аб‘яднаных у брацтвы, адважнымі пратэстамі лепшых прадстаўнікоў тагачаснага духавенства, мужнымі іэрархамі, якія чарпалі сілы з веры ў Бога ды ў народ, не дайшло да ўвядзеньня ў жыцьцё гэтае „пакусы нашае веры“, як называе Грыгарыянскі каляндар гарачы патрыёт і вядомы украінскі палеміста XVI стал. манах Іван Вішэнскі. У гэтай збавіцельнай цьвёрдасьці нашых продкаў дапамаглі ім праз свой аўтарытэт усходнія патрыярхі. Імя вядомага патрыярха таго часу Кірылы Лукарыса, які нейкі час жыў у Астрозе, блізка зьвязана з палемічнаю дзейнасьцю вучоных прафэсароў Астрожскае Акадэміі ды іншых абаронцаў „рэлігіі ўсходняй“, якія з вартай прыкладу гарачнасьцю і адвагаю выступілі проціў небязьпечных новых рэформаў, у тым ліку і проціў лацінскага каляндара.

І тады, у часе асаблівага панаваньня грубага самадурства ды езуіцкіх падвохаў з аднаго боку і пэўнае інэртнасьці ды нацыянальнае несьвядомасьці народнае масы—з другога, нашыя продкі ўсёжткі здалелі абараніць асьвячоны старадаўнасьцю і народнаю псыхікаю свой каляндар так, што, зьяднаўшыся часткай ў догме із Рымам, народ наш нязьменна захаваў яго, як захаваў і іншыя вонкавыя адзнакі свайго „благочестия“, і нават у вуніі з царквою рымска-каталіцкаю заховываець яго і па сяньняшні дзень, як адзін з асноўных вянцоў яго рэлігійнае і нацыянальнае незалежнасьці.

У нашыя часы ізноў ідзець націск на наш народ. Ува ўсіх праявах яго жыцьця вядзецца націск з тэй мэтай каб аслабіць яго народныя сілы, каб паступова пазбавіць яго нацыянальнае незалежнасьці ды аканчальна яго спалянізаваць. Дзеля гэтага робіцца націск і на яго царкоўна-рэлігійнае жыцьцё. Робіцца націск з асьцярогаю, але па пляну, пачынаючы са спробы нівэляцыі на грунце адзіннага царкоўнага каляндару. Зразумела, што Вам, Уладыка, каму прыйшлося стануць на чале няшчаснае праваслаўнае царквы нашага народу пад Польшчаю, у гэты небясьпечны час, трэба было-б стаяць на старане сваёй праваслаўнай паствы, у тым ліку нашага народу украінскага, які складае большасьць праваслаўных у Польшчы, ды ўсюды і заўсёды бараніць царкоўныя інтарэсы гэтае паствы і зьвязаныя з імі інтарэсы нацыянальныя; трэба было-б сьмела і аўтарытэтна папераджаць усе справы пасяганьня на праваслаўную царкву і царкоўна-народны ўклад.

Нажаль, Вы з самага пачатку ня вытрымалі націску, націску без параўнаньня меншага, чым той, які быў у XVI—XVII стал., лёгка падаліся яму. Вы, Мітрапаліт праваслаўнае царквы, якой і польская канстытуцыя і міжнародныя трактаты загарантавалі пэўныя правы і вольнае выкананьне рэлігійнае практыкі, бяз ніякага адпору і зусім легальнае барацьбы, а з пакорнасьцю звычайнага ўрадоўца, таксама лёгка адступілі перад урадам у справе каляндару, як лёгка адступаеце перад ім і ў іншым: у пытаньні аб мове выкладаньня ў духоўных школах і сэмінарыях, у справе адбіраньня і высьвянчаньня на касьцёлы цэркваў, якія ніколі ня былі касьцёламі, у справе рэдукцыі праваслаўных парахвіяў ды зводу іх да мінімальнага ліку і г. д.

Ступень за ступеньню Вы робіце ўсё новыя адступкі і, такім чынам, дапамагаеце падкопываць грунт пад народам, на якім ён пакуль што стаіць цьвёрда, накідаеце народу непажаданыя для яго новыя рэформы і, такім чынам, раскладаеце яго еднасьць, аслабляеце яго сілы.

Здаецца—ясна, што ў такой справе, як новы каляндар, справе не догматычнай, але зьвязанай з народнымі звычаямі, Вам трэба было-б спытацца ў самога народу, ці згаджаецца ён яго прыняць для сваей царкоўна-рэлігійнай практыкі, якая складае вельмі далікатную праяву народнае душы; трэба было-б азнаёміцца з думкаю духавенства ў гэтай справе, якое стаіць да народу бліжэй за Вас, чужога для народу нашага і сваім паходжаньнем, і моваю, і звычаямі.

Бо сьвядомы ў сабе і ў сваей веры народ наш і блізкае да яго духавенства таксама ёсьць сябрамі тае духоўнае грамады; якая празываецца царквой; тут на зя млі, ды йшчэ ў варунках пэўнае палітычнае сітуацыі, яны ёсьць сябрамі царквы, якая празываецца „ваяўнічаю“, і ня могуць дазволіць накідаць сабе нешта новае і небясьпечнае, хаця-ж бы гэта йшло і ад япіскапаў.

Але Вы не захацелі склікаць ані Сабору, ані нават звычайных зьездаў духавенства і веруючых, а самі вырашылі для народу нашага далікатную і, па сутнасьці, цяжкую справу каляндару, тую справу, над якой ламае цяпер галару спэцыяльная камісія пры Лізе Народаў,—і ў дадзеным прыпадку Вы зрабілі ўчынак, згодны не з жаданьнямі народу, а з жаданьнямі ўраду, якому звычайна лягчэй даваць пэўныя загады беспасярэдна Вам і праз Вас кіраваць праваслаўнай царквой, як яму падабаецца, чымся лічыцца з Саборам, на якім сабраныя ня так ужо лёгка пагодзяцца з рознымі праектамі ўраду і належным спосабам дадуць адпор ініцыятарам небязьпечных новых рэформаў. З намі, абранцамі нашага народу, сябрамі Сойму і Сэнату, якім народ перадаў правы стаяць між іншым на абароне яго царквы, Вы таксама не знайшлі патрэбным паразумецца, падзяліцца сваімі намерамі ды даведацца праз нас думку народу, бо баіцёся наклікаць на сябе гнеў нашага цяперашняга обэр-пракурора—Міністра Рэлігіяў за зносіны з людзьмі, якія маюць магчымасьць казаць праўду і праз гэта востра крытыкуюць урад за яго экстэрмінацыйную палітыку ў адносінах да народу нашага.

Не знайшлося ў Вас сьмеласьці стануць проціў вымаганьняў улады, не хапіла рашучасьці стаяць на грунце ўсходняга абраду ды праз вякі зложанай царкоўнай практыкі, ня стала ў Вас адважлівасьці ў разе чаго і ў адстаўку выйсьці. Перамагла ў Вас, манаха, прыхільнасьць да ўлады, да хатняга камфорту і ўсіх выгад бязтурботнага жыцьця, да тых „благъ тленныхъ“, што цякуць да Вас і з дзяржаўнай казны і з усіх Вашых сінэкураў-манастыроў, зьнішчаных праз Вас царкоўных лясоў і з розных падаткаў, пад цяжарам якіх стогне духавенства і парахвіі. Вы адступілі перад урадам, парушыўшы адну з галоўных асноваў праваслаўнае царквы, яе саборнасьць, і, назваўшы свой Сынод саборам япіскапаў, зьдзейсьнілі волю ўраду, вырашыўшы перайсьці на новы стыль з нядзелі Усіх Сьвятых, г. ё. з 9-га чэрвеня стар. стылю, загадаўшы лічыць гэты дзень 22-ім днём месяца чэрвеня.

Але Вам трэ‘ было аперціся ў такой важнай справе на нейкі аўтарытэт, ды самі Вы нібыто не маглі ўвясьці зьмены ў каляндарным стылю дзеля таго, што, хаця-ж гэтая зьмена, як сказана ў „Дзеяньнях“ Сыноду, які быў названы на гэты раз Саборам япіскапаў, і не зачапляе сутнасьці праваслаўя, але, у кожным разе, перавышае кампэтэнцыю Асьвячонага Сыноду і вымагае благаслаўленьня і аўтарытэту ўсяленскага Канстантынопальскага Патрыярха. Дзеля таго Вы робіце ссылку на ліст Грыгора VII, Канстантынопальскага Патрыярха, ад 5-га сакавіка 1924 г. № 389.

Няма што й казаць пра тое, што аўтарытэт Усяленскага Патрыярха, да рэчы, Патрыярха тэй царквы, якая таксама, як і нашая праваслаўная царква ў Польшчы, перажываець вялікі крызіс, бо апынулася ў моцных руках свайго турэцкага ўраду; аўтарытэт гэны ў дадзеным прыпадку не на мейсцы таму, што нашая царква, як бы там ня было, фармальна належыць да Патрыярха Маскоўскага, і ў дадзеным прыпадку зусім натуральным было-б з боку Асьвячон. Сыноду праваслаўнае царквы ў Польшчы жаданьне аўтарытэту і благаслаўленьня Патрыярха Ціхана, імя якога памінаецца ўсюды ў нас у часе службы Божае. Але Вы гэтага благаслаўленьня для вырашэньня справы, якая перавышае кампэтэнцыю Вашага Сыноду, чамусь не пажадалі. Калі Вы ўжо спынілі з Маскоўскім Патрыярхам „общеніе“, то калі і на падставе якога кананічна праўнага акту было гэта зроблена? Апроч таго, у лісьце Патрыярха Грыгора VII ніякага благаслаўленьня і няма, а ёсьць адно толькі давядзеньне да ведама, што ў Канстантынопальскай царкве па пэўных прычынах уведзены новы стыль, а такое благаслаўленьне, як Вы ў „Дзеяньнях“ слушна кажаце, абавязкова патрэбна. З гэтае прычыны ліст гэты ня ёсьць якім небудзь аргумэнтам, а словы пастановы Сыноду: „сыновне привѣтствовать отеческое попеченіе Святѣйшаго Вселенскаго Патріарха о благѣ святыхъ Божіихъ помѣстныхъ церквей и о нуждахъ—вечныхъ и временныхъ чадъ этихъ церквей, любезно—о Господѣ, уставившемъ времена и лѣта для славы Своей, принять отечески братское письмо Его Святѣйшества и его Патріаршее и Синодальное посланіе и возвѣстить эти акты попечительной любви верным чадамъ Христовой церкви Вселенскаго Престола всѣмъ пастырямъ и пасомымъ Православной церкви въ Польшѣ“, ёсьць залішне схслястычным наборам слоў з мэтай схаваць тую адсутнасьць лёгікі, якая месьціцца ў пастанове Сыноду, што ўводзіць і ў нашае царкоўнае жыцьцё новую рэформу беднае, маленькае, прыгнечанае, хаця-ж і з голасным тытулам усяленскае, царквы Канстантынопальскае, і ў супярэчнасьці з ясным супорам Патрыярха Маскоўскага Ціхана. („Церк. Вѣдом.“ № 7 и 8).

Што-ж гэта за важныя прычыны, якія прымусілі Вас увясьці ў каляндары новы стыль і аж на 13 дзён скараціць гадавы круг праваслаўных службаў Божых? Асьвячоны Сынод паказвае на „мѣстныя экономичеськія причины, а часто непреодолимыя затрудненія, неудобства і лишенія для православнаго населенія Польши въ празднованіи праздніковъ по старому стилю“. У адказ на гэта можна сказаць, што кіравацца на матывы эканамічнага характару ў справе зьмены рэлігійна-царкоўнага парадку і на іх грунтавацца адпавядае камусь іншаму, а толькі не іэрархам праваслаўнае царквы. Апроч таго практыка жыдоўскага грамадзянства, якое жывець шмат вякоў сярод мора народаў хрысьціянскіх, грамадзянства пераважна гандлёвага, якое бязспрэчна мае шмат эканамічных ды іншых перашкод ад таго, што іх сьвяты ня сходзяцца з сьвятамі хрысьціянскімі, ёсьць доказам таго, што людзі з

інскія паслы і сэнатары на надзвычайнае паседжаньне абгаварыць утварыўшуюся сітуацыю. Адначасна мелі паседжаньне паслы і сэнатары беларускія.

Канфіската памянёных артыкулаў, якія трактуюць аб унутранай справе праваслаўнае царквы, пярэчыць арт. 111 і 113 канстытуцыі.

Гэта ёсьць выдатным па сваей яскравасьці доказам умешываньня адміністрацыйнае польскае ўлады ў справы ўнутраныя праваслаўнае царквы.

Нават ў тым прыпадку, калі-б Мітрапаліт Дзяніс зварачываўся за дзяржаўнаю дапамогаю ў сваей барацьбе з веруючымі ў справах, якія датыкаюцца ўнутранае арганізацыі і жыцьця праваслаўнае царквы, то й у такім прыпадку Урад, згодна з асновамі Канстытуцыі, павінен быў бы захаваць нэйтралітэт.

З гэтае прычыны падпісаныя пытаюцца ў п. Міністра Унутраных Справаў:

1. Ці ведамы яму памянёны вышэй факт праціўканстытуцыйнае і тэндэнцыйнае канфіскаты?

2. Ці ён маніцца наказаць падпарадкаваным яму органам, каб яны шанавалі прынцыпы свабоды слова, а таксама ня ўмешываліся да ўнутраных справаў праваслаўнае царквы?

Варшава, 24 чэрвеня 1924 г.

# Палітычныя падзеі.

### Адстаўка гр. Замойскага.

Міністар Заграпічных Спраў, граф Замойскі, падаўся ў адстаўку.

Яго месца мае заняць пасол-вызваленец Тугутт.

### Спадзяваны распад партыі „Вызвалене".

У Сойме і ў прэсе слушна спадзяюцца, што коаліцыя лідэра „Вызваленя" з правіцай у ўрадзе выкліча раскол партыі на тры групы: на староньнікаў Тугутта, на рашучых праціўнікаў яго, якія захаваюць назоў партыі, і—групу Домбскага, якая злучыцца з нядаўна выйшаўшымі з „Пяста" левымі людоўцамі—так-званай групай пасла Брыля.

Можна спадзявацца, што ўсе шчырыя беларусы з партыі „Вызваленьня" нарэшце ўжо злучацца з Беларускім Клюбам.

### Камуністычная арганізацыя ў Перамышлю.

Газэты падаюць, што ў Перамышлю (Галічына) паліцыя выкрыла вельмі пашыраную камуністычную арганізацыю.

### Прыгатаўленьні С.С.Р.Р.

Газэты падаюць цікавыя весткі, аб тых ваенных заказах, якія заграпічныя фірмы выпаўняюць для ССРР.

Праз галяндзкага агента ў ССРР. прайшло за апошні год ужо 330 аэрапляпаў галяндзкіх і ангельскіх фірм. З Італіі атрымана ўжо 200 аэрапляпаў і гідрапляпаў (што ўздымаюцца з вады). Апроч таго, у Італіі заказаны 40 цяжкіх „танкаў", датарнаваных да нашых дарог; — у Швэцыі 65 броніраваных маторных лодак англійскага тыпу для барацьбы з падводнымі лодкамі.

Адна вялікая фірма з Галяндыі, атрымаўшы вялікі заказ на пасажырскія аэрапляны, пабудавала вялізарны завод каля Тверу.

### Канфэрэнцыя Малай Антанты.

Закончылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў дзяржаў Малай Антанты. Афіцыяльна абвешчана, што сябрамі канфэрэнцыі дасягнута поўнае паразуменьне па ўсім справам. Можна толькі дадаць: апроч тэй адзінай, але галоўнай, якая фатальна разьдзяляе іх,—у якой паразуменьне немагчыма зусім.

Гэтае галоўнае пытаньне — аб адносінах да ССРР.,—было папросту зьнята з павесткі. Але гэтым справа расколу і распаду Малай Антанты толькі адкладзена.

Падаюць цікавую вестку аб тым, быццам у прыватнай размове з румынскім мін. загр. спраў п. Дука чэскі міністар п. Бэнэш намаўляў яго папрабаваць, ці ня пойдуць бальшавікі на кампраміс... за палову Бэсарабіі! Але той быццам выкруціўся тым, што ня мае паўнамоцтваў размаўляць аб гэтай справе.

### Лёндонская канфэрэнцыя.

16-га ліпня пачалася ў Лёндоне новая міжсаюзная канфэрэнцыя. Англійскія газэты пішуць, што канфэрэнцыя можа працягнуцца аж 4 тыдні.

### Рэзалюцыя амэрыканскіх чыгуншчыкаў.

Саюз амэрыканскіх чыгуншчыкаў прыняў рэзалюцыю, каб усе чыгункі былі нацыяналізаваны (зроблены ўласнасьцю народу) і над усімі спосабамі камунікацыі, абслугоўваючымі шырокія масы народу, быў пастаўлены кантроль дэмакратычнае ўлады.

### Рэвалюцыя ў Бразыліі.

Цэлы рад новых штатаў далучыўся да паўстанцаў з Сан-Паолё,—паўстаньне вылілася ў запраўдную рэвалюцыю. Нямецкі артылерыйскі полк далучыўся да Рэвалюцыйнае арміі. Апошняя выдала адозву, у якой трэбуе зьмены прэзыдэнта. Урадавыя войскі адступаюць. Бразыльскія паперы значна спалі на заграпічнай біржы.

Вялікі бой у Сан-Паолё быў вельмі крывавы. Рэвалюцыйная армія ў Сан-Паолё мае ўжо 64.000 жаўнераў, а ўрадовая—толькі 24.000.

### Ахвяра амэрыканскіх фашыстаў.

Амэрыканскія фашысты не адстаюць ад італьянскіх. Нядаўна прапаў бяз весьці адзін з пастараў, які ў сваіх казаньнях вельмі рэзка кляйміў іх тэрорыстычную дзеяльнасьць. Праз 11 дзён ён быў знойдзены з азнакамі умысловай хваробы ад нейкага яду— і з выпаленымі на сьпіне літэрамі к. к. к. „Ку-Клюкс-Клян", гэта — назоў амэрыканскіх фашыстаў.

# ХРОНІКА.

**Канфіскацыя „Сына Беларуса". Па загаду камісара Ураду на м. Вільню паліцыя сканфіскавала ўвесь наклад № 15 „Сына Беларуса" з 16 ліпня г. г.**

**Пленарны сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту.** Нас просяць напомніць усім сябром Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, што ў гэту нядзелю, 20 ліпня, у 4 гадз. папалудні адбудзецца пленарны сход Камітэту ў памяшчэньні яго, Віленская 12, кв. 6.

**Адміністрацыйная камісія Сойму ў Вільні.** У панядзелак, 14 ліпня ( — як раз у гадаўшчыну францускага нацыянальнага сьвята разбурэньня вастрогу Бастыльлі ў 1789 г.!) соймавая адміністрацыйная камісія аглядала віленскія вастрогі і распытывалася палітычных вязьняў аб гвалтах, учыненых над імі.

Як нас інфармуюць, усе факты катаваньня пяцёх літоўскіх гімназістаў, зьмешчаныя ў інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу з 18 чэрвеня г. г., цалком пацьверджаны пацярпеўшымі. На жаль, больш даведацца аб выніках працы камісіі нам не ўдалося.

Пасьля агляду вастрогаў сябры камісіі, зацікавіўшыся беларускай культурнай працай, аглядалі беларускі музэй ім. Ів. Луцкевіча — памяткі нашае старадаўнае культуры.

Паслоў зацікавілі старадаўныя беларускія граматы з подпісамі польскіх каралёў. Раптам нехта з прысутных зварачаецца да пасла Тугутта:

— Пане Прэзэс, глядзіце: нават і бяз польскага перакладу?!

Увага вызвала стрымліваны сьмех: бо-ж сучасныя польскія законы, сфабрыкаваныя пры ўчасьці гэтага-ж самага п. Тугутта, прадбачаць для беларусаў пры ўрадовых дакумэнтах у польскай мове толькі... беларускія пераклады! Ад часоў Жыгімонтаў і Баторыяў Польшча ў нацыянальным пытаньні пайшла далёка... назад!

**„Адкрытае пісьмо ў справе белага тэрору ў Польшчы"**, зьмяшчаючае пратэст проці ўрадовага ўціску работніцкіх арганізацыяў і нацыянальных меншасьцяў і падпісанае больш, чым сотняй выдатных грамадзкіх дзеячоў, паслоў і сэнатараў (у тым ліку беларускіх), было сконфіскована ў часопісі „Trybuna Robotnicza". Украінскія сад.-дэм. паслы падалі на рукі маршалка Сойму інтэрпэляцыю ў гэтай справе, зьмяшчаючы ў ёй і тэкст пратэсту. Аднак, маршалак інтэрпэляцыі гэтай ня прыняў, і дзеля таго яна (а, значыць, і пратэст) ня можа быць апублікована.

**Жаноцкі рух у Зах. Беларусі.** „Glos Kom". піша, што ў месяцу траўню г. г. адбылася камуністычная канфэрэнцыя жанок Заходняе Беларусі. На канфэрэнцыі было 7 дэлегатак і 2 дэлегаты, якія прадстаўлялі камуністычныя жаноцкія арганізацыі Вільні, Горадні і Беластоку, а такжа прадстаўніцтва ад цэнтру. Справаздачы з мейсц паказуюць, што дзейнасьць жаноцкае арганізацыі разьвіваецца бадай выключна сярод жыдоўскіх работніц.

На канфэрэнцыі пастаноўлена ўтварыць жаноцкі камітэт Беларусі дзеля кіраваньня працай сярод жанок на ўсей беларускай тэрыторыі.

**З школьнага жыцьця.** Сябра Т-ва Беларускае Школы, б. вучыцель Віленскае Беларускае Гімназіі, Мікола Красінскі, якому Цантр. Школьная Рада ў Вільні даручыла арганізаваць беларускую гімназію ў Глыбокім, ня прыняў гэтага даручэньня з прычыны таго, што згадзіўся на прапазіцыю Радашкоўскае Школьнае Рады працаваць у Радашкоўскай беларускай гімназіі.

Грам. Красінскі зьбіраецца працаваць у Радашковічах, як звычайны пэдагог, працуючы адначасна над складаньнем падручнікаў па лацінскай мове ды над перакладам на беларускую мову Сьв. Эвангельля.

**Выступленьне беларускае моладзі.** У сувязі з захватам „Беларускага Грамадзянскага Сабраньня" групай асоб з вядомым Валэйшай на чале—з крымінальным прошлым, з гэтага таварыства выступілі ўсе паважаючыя сябе беларускія дзеячы, і само таварыства было пазбаўлена прадстаўніцтва ў Беларускім Нацыянальным Камітэце. Цяпер нас просяць адзначыць, што беларуская студэнцкая моладзь аб'явіла гэнаму Сабраньню байкот. Згодна з гэтым друкуем прысланую нам выпіску з пратаколу паседжаньня Ураду Беларускага Студэнцкага Саюзу 12 чэрвеня 1924 году:

„Урад Белар. Студ. Саюзу, прыймаючы пад увагу ўсё тое, што зайшло паміж Беларускім Грамадзянствам і „Беларускім Грамадзянскім Сабраньнем" (як арганізацыяй), пастанаўляе сарваць адносіны з „Бел. Грам. Сабраньнем", вымагаючы поўнага застасаваньня ўсіх сваіх сяброў да гэтае пастановы.

„У праціўным выпадку, незастасаваўшыяся да пастановы сябры Саюзу будуць выключаны з ліку сяброў Б. С. Саюзу і падданы агульнаму байкоту".

# Весткі з вёскі.

**В. Кракотка**, Слонімскага павету.

Яшчэ зімою мы прасілі цераз „Змаганьне" каб хто небудзь з паслоў заглянуў і ў наш павет і пазнаёміўся з жыцьцём, якое ідзе па-за вёскаю (шчырая падзяка паслам за мітынг 16 чэрвеня у Слоніме!).

„Геаграфічны цэнтр Заходняе Беларусі" задыхаецца, дзічэе з кожным днём. Сяляне толькі і знаюць плаціць падаткі, але ўсе падаткі ідуць нам на згубу. Панэ і паночкі, пакажэце хоць адно добрае дзела за нашы крывавыя маркі!? Няшчасныя нашыя пяскі і каменьне былі выкуплены яшчэ перад вайною, і, як нам здаецца, цяпер усе зборы павінны ісьці на паляпшэньне нашага жыцьця.

Ня надта даўно ўся перадавая інтэлігенцыя абуралася царскімі парадкамі, а цяпер большасьць яе сама зьяўляецца ўладай. І што-ж яна зрабіла?

Да вайны мы маглі купляць лес на сваю патрэбу, бо кожны год нарэзваліся „крестьянскія" дзялянкі. Хоць цераз банкі маглі купляць зямлю. У воласьці было чатырнаццаць школ і да дваццаці вучыцялёў. А цяпер? Лес прадаюць адно спэкулянтам; прыросту зямліцы ня бачым; чуць не палавіна вёсак зусім ня мае школаў,— ды можа яны шчасьлівейшыя, бо бацькі не штрафуюць сваіх дзетак за родную мову, як гэта робяць вучыцялі!... ды школьныя інспэктары ня зьдзекуюцца над бацькамі штрафамі і адседкаю. А ў навуцы дык і ня вялікая страта, хоць дзіця і ня знае чатырох-пяцёх польскіх каралёў. Чатыры-пяць зім ходзіць дзіця ў польскую школу, на шосты год ужо няпісьменнае: ні па польску, ні па-беларуску.

Але затое паліцыі бачым даволі! Ужо гэта гаворыць аб нашым жыцьці.... Пры цары быў на воласьць адзін ураднік і то ўсім уядаўся ў косьці; а цяпер чатыры! З гэтага выходзіць, што нам жывецца ў чатыры разы.... лепей, як пры цары!

Забіраеце ад нас апошнія крошкі, давайце-ж магчымасьць жыць! Дайце нам зямліцу, каторую дзяды і бацькі нашыя палівалі крывёю і потам! Дайце нам родную школу, ня польскую, а беларускую! Не перашкаджайце ў сваёй хатцы рабіць свае парадкі!

**Цесак.**

**М. Новы-Пагост**, Дзісьненскага пав.

Нашае мястэчка можна назваць проста глухім кутком. Глухі куток кажу затым, што яно знаходзіцца далёка ад жалезнай дарогі і ад свайго павету — аж за 55 вёрст. У позную восень і вясну, калі дарогі псуюцца, жыцьце гандлёвае тут заміраець, і ад гэтага церпіць кожны жыхар, а асабліва тады цяжка бываець вясковаму гаспадару. Бо тады ўсе товары ў крамах даражэюць, а ўсе сялянскія тавары таньнеюць. А заработкаў тут тады, ый усягды, можна сказаць няма, апрача таго, калі каму ўдасца які раз зьезьдзіць у каапэратыў.

А цяпер хачу сказаць пра тое, ад чаго прыходзіцца ўсім нам цярпець што дзень. Напрыклад, адзін раз стаю я на вуліцы і чую, як нейкая баба са злосьцю гаворыць другой: „Хай іх хвароба, такіх парадкаў. Хацела выбраць удостоверэня, пайшла ў воласьць, а сказалі прынясьці нейкіх марак. Ну, як марак, дык я ляту на пошту. А на пошце пытаюцца, а якіх табе бабка марак трэба: да пісьма, ці так да чаго? — кажу: у Гміну трэба. Тады пашталён кажа: „такіх у нас німа, а ёсьць толькі да пісем". І куды яна ні кідалася, нідзе гэрбавых марак дастаць не магла.

Людзі дзівяцца і кажуць: „Нашаму брату знай плаці толькі падаткі, а выгады табе ні на грош, нават за маркай трэба ляцець 55 вёрст!".

Як я даведаўся, дык кіраўнік пошты пісаў аб гэтых марках у Паштовую Дырэкцыю ў Вільню і да Касы Скарбовай у Глыбокім, але адтуль ні марак, ні адказу.

**Тутэйшы.**

# Наша пошта.

**Яну Цытовічу** — 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем з 16 ліпня.

**П. Конону** — 3 зл. атрымалі. Дзякуем.

**П. Коско** — 3 зл. атрымалі. Дзякуем.



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**



Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.